...не разбіць, не спыніць, не стрымаць

# Голас Ліды

№ 9 (43) 27 ЛЮТАГА 2001 г. ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

## Наш кандыдат Сямён Домаш



Домаш Сямён Мікалаевіч нарадзіўся 2.01.1950 г. у в. Тумашы Ляхавіц-кага раёна Берасцейскай вобласці. Беларус. Беспартыйны. Адукацыя вышэйшая. Эканаміст. Закончыў Бабруйскі аўтатранспартны тэхнікум, Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі.

Працоўную дзейнасць пачаў у 1969 годзе механікам па рамонту аўтамабіляў Астравецкай аўтабазы № 4 Гарадзенскага аблаўтаўпраўлення.

З 1970 па 1974 гг. – галоўны інжынер, з 1974 па 1977 гг. – дырэктар Астравецкай аўтабазы № 4.

1977 – 1982 гг. – дырэктар Гарадзенскага грузавога аўтакамбіната № 1.

1982 – 1983 гг. – заг. прамыслова-транспартным аддзелам Гарадзенскага Гаркама КПБ.

1983 – 1987 гг. – другі сакратар Кастрычніцкага райкама КПБ г. Горадні, курыраваў работу прамысловасці, транспарту, будаўніцтва ды іншых галінаў народнай гаспадаркі раёна.

**У 1987 г. абраны старшынём Лідскага гарвыканкама і гарадскога Савета дэпутатаў.**

У 1990 г. абраны старшынём Гарадзенскага гарвыканкама.

З 1991 г. – старшыня Гарадзенскага гарвыканкама і гарадскога Савета дэпутатаў.

У 1993 г. абраны старшынём Гарадзенскага аблвыканкама і абласнога Савета дэпутатаў.

Са снежня 1994 да мая 1996 года – старшыня Гарадзенскага абласнога Савета дэпутатаў.

Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га і 13-га скліканняў.

У маі 1996 года абраны сябрам Прэзідыюма Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання.

Жанаты. Два сыны і ўнук.

## Да ўвагі неабыякавых

**На аснове Лідскай гарадской арганізацыі БНФ "Адраджэнне" ў Лідзе створаны Штаб для забеспячэння дэмакратычнасці будучых прэзідэнцкіх выбараў. Усіх, хто гатовы папрацаваць на будучую дэмакратычную Беларусь, просім звяртацца ў сядзібы БНФ "Адраджэнне", БСДП "Народная грамада", АГП, або дасылаць свае каардынаты для сувязі на адрас газеты.**

## Навіны Гарадзеншчыны

### МАСТОЎСКІ РОК-ГУРТ САБРАЎ ГРОШЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ-ІНВАЛІДАЎ

Мастоўскі рок-гурт "Маніфэст" даў дабрачынны канцэрт, зборы ад якога пайшлі на дапамогу дзецям-інвалідам. Выступленьне прайшло ў мясцовым Доме культуры і мела вялікі посьпех. Адмыслова на канцэрт прыехалі школьнікі з Правамастоўскай школы-інтэрнату.

### ГАРАДЗЕНСКІЯ БАРСУКІ ЎЗЯТЫЯ ПАД АХОВУ

Міністэрства прыроды Беларусі аб'явіла помнікамі прыроды дзесяць валуноў на Слонімшчыне і Мастоўшчыне. Помнікамі прыроды мясцовага значэньня ў Шчучынскім раёне былі аб'яўленыя два старажытныя паркі ў вёсках Ражанка і Галавічпольле. Усяго летась ў Гарадзенскай вобласьці былі ўзятыя пад ахову 28 відаў расьлінаў, 13 відаў насякомых, 8 відаў птушак і адзін від жывёлаў - барсукі.

### ЖЫХАРОЎ ВАЎКАВЫСКУ ПУЖАЮЦЬ "ЦАРКВОЙ ІСУСА ХРЫСТА"

У Ваўкавыскім райвыканкаме прайшоў раённы сэмінар "Рэлігійныя рухі, сэкты, культы і іх узьдзеяньне на грамадзтва". На гэтае мерапрыемства былі скліканыя сябры маладзёвых арганізацыяў раёну, выкладчыкі школ і сярэдніх навучальных установаў, псыхолягі. З асноўным дакладам выступіў загадчык аддзела па працы з моладзьдзю і намесьнік старшыні райвыканкаму. Пасьля быў паказаны фільм пра дэструктыўныя сэкты, пад якімі, чамусьці, мелася на ўвазе "Царква Ісуса Хрыста", якая фігуравала побач з сатаністамі.

### КАБ НАСТАЎНІКІ МЕЛІ ПРАВІЛЬНУЮ АРЫЕНТАЦЫЮ

Зь мінулага тыдню ў школах Ваўкавыску (Гарадзенская вобласьць) і Ваўкавыскага раёну для настаўнікаў праводзяцца заняткі па палітінфармацыі. Для гэтага у іх расклад уведзеныя дадатковыя гадзіны. Заняткі будуць праводзіцца раз на тыдзень спэцыяльна прызначанымі для гэтых мэтаў "адказнымі" настаўнікамі.

## СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧЫ СХОД

### Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ

**6 - га сакавіка ў Лідзе пройдзе справаздачна-выбарчы сход Лідскай гарадской арганізацыі ГА ТБМ імя Францішка Скарыны**

**На павестцы дня:**

1. **Справаздача старшыні Лідскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны.**
2. **Справаздача старшыні Рэвізійнай камісіі.**
3. **Выбары новага кіраўніцтва арганізацыі.**

## ЗАКОНАПРАЕКТ "АБ ІНФАРМАЦЫЙНАЙ БЯСЬПЕЦЫ" ПАГРАЖАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЙ БЯСЬПЕЦЫ БЕЛАРУСІ

Праект закону "Аб інфармацыйнай бясьпецы", падрыхтаваны да разгляду ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу, быў разгледжаны Цэнтрам прававой абароны СМІ пры грамадзкім аб'яднаньні "Беларуская асацыяцыя журналістаў". У заключэньні Цэнтру гаворыцца, што законапаект "супярэчыць агульнапрызнаным нормам міжнароднага права і стварае перадумовы для абмежаваньня канстытуцыйных правоў і свабодаў грамадзянаў. Яго прыняцьце можа прывесьці да далейшага абмежаваньня свабоды масавай інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь".

Спэцыялісты Сусьветнай кампаніі за свабоду слова "Артыкул 19" прыйшлі да падобных высноваў на падставе падрабязнага аналізу тэксту законапраекту. У іх заяве гаворыцца, што законапраект ёсьць спробай пазбавіць грамадзкасьць яе правоў. Яго прыняцьце прывяло б да абмежаваньня дзейнасьці сродкаў масавай інфармацыі і забароны выказваньня любых меркаваньняў, што не адпавядаюць меркаваньням выканаўчай улады. Некаторыя палажэньні законапраекту маюць на ўвазе падтрымку канстытуцыйных гарантыяў свабоды выказваньня і інфармацыі, аднак усё астатняе дыямэтральна супярэчыць гэтым стандартам. Каб Беларусь пачала прытрымліваецца сваіх абавязальніцтваў згодна міжнароднаму заканадаўству і для адпаведнасьці міжнародным стандартам беларускі ўрад мусіць неадкладна спыніць разгляд такіх законапраектаў.

## КРЫЧАЎ - "ВОЛЬНЫ ГОРАД"?

20 лютага ў Крычаве адбыўся суд над рэдактарам незарэгістраванай мясцовай газэты "Вольны горад" Сяргеем Няроўным. Ён і кур'ер Вадзім Стэфаненка, які адначасова ўзначальвае мясцовы "Малады Фронт", былі асуджаныя да штрафу ў 50 мін. заробкаў за незаконны занятак прадпрымальніцкай дзейнасцю і незаконны выраб і распаўсюджваньне друкаванай прадукцыі. "Вольны горад" друкуецца ў смаленскай друкарні і дастаўляецца ў Крычаў цягнікам. 2 лютага міліцэйскі аддзел па грамадзкай бясьпецы канфіскаваў у кур'ера 507 асобнікаў газэты. Аднак гэта толькі адзін эпізод з канфлікту выданьня і праваахоўных ворганаў. Спробы зьняць зь цягніка кур'ераў і канфіскаваць наклад газэты былі зробленыя 9 і 13 лютага. Першы раз Вадзім Стэфаненка быў затрыманы разам з газэтамі і накладнымі, а другі раз газэтаў у яго не было, затое на вакзале міліцыянтаў чакалі журналісты "Вольнага гораду" з фотаапаратам.

Рэдакцыя на працоўным паседжаньні вырашыла ў выпадку, калі канфіскацыя накладаў будзе праягвацца, зьвярнуцца да чытачоў з просьбай сустракаць кур'ера з чарговым нумарам выданьня. Пэўныя захады былі зробленыя й прадстаўнікамі ўладаў: 18 лютага райвыканкам зьвярнуўся да кіраўніцтва Смаленскай вобласці з просьбай прыпыніць друкаваньне крычаўскай газэты. Варта зазначыць, што друкарня, якая абслугоўвае "Вольны горад", прыватная.

## ЗАВОД БЕЗ ПРАФСАЮЗУ

Беспасьпяхова скончылася спроба стварэньня філіі "Сабоднага прафсаюзу мэталістаў" на Жыткавіцкім маторным заводзе. Першапачаткова сярод заснавальнікаў прафсаюзу было каля 30 чалавек. Аднак факт заснаваньня прафсаюзнай суполкі выклікаў нэгатыўнае стаўленьне з боку кіраўніцтва заводу. За некалькі месяцаў высьвятленьня стасункаў колькасьць прыхільнікаў новай арганізацыі скарацілася да трох чалавек. Між тым, адміністрацыя Жыткавіцкага маторанга заводу - найбуйнейшага прыдпрыемства раёну - рыхтуецца да скарачэньня працоўных месцаў па прычыне складанага эканамічнага становішча прадпрыемства.

## У ПАСТАЎСКІМ РАЁНЕ ПРЫЗНАЧАНЫЯ ПАЛІТРУКІ

У пастаўскім райвыканкаме адбылася працоўная нарада, на якой са справаздачай выступіла загадчыца аддзелу інфармацыі Галіна Чаплінская. У раёне падабраныя ляяльныя намесьнікі кіраўнікоў па інфармацыйнай працы ў 19 калгасах, на 14 прадпрыемствах і ў 21 арганізацыі. У 16 калектывах яны ўключаныя ў штат, астатнія працуюць па сумяшчальніцтве. Яшчэ пры выканкаме дзейнічаюць шэсьць інфармацыйных груп агульнай колькасьцю 60 актывістаў. Гэты рэсурс будзе працаваць на выбары побач зь дзяржаўнымі СМІ.

## АДКРЫЎСЯ ЧАЦЬВЕРТЫ УСЕБЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КУЛЬТУРАЎ

17 лютага ў Менску адбылося ўрачыстае адкрыцьцё IУ Усебеларскага фэстывалю нацыянальных культур 2001 - 2002 гадоў. На адкрыцьці прысутнічалі чыноўнікі і супрацоўнікі амбасадаў. Толькі ў чэрвені прайшоў у Гародні заключны этап мінулага фэстывалю. У ім узялі ўдзел 16 нацыянальных культурна-асьветніцкіх аб'яднаньняў.

Фэстываль уключае ў сябе два рэгіянальныя туры. заключныя мерапрыемствы пройдуць у Гародні ў чэрвені 2002 году. У фэстывалі прымуць удзел аматарскія і прафэсійныя калектывы. Будзе прэзэнтаваная таксама нацыянальная кухня. У рамках фэстывалю пройдуць самыя розныя падзеі - дні культуры, сэмінары, канфэрэнцыі, творчыя вечарыны, эксурсіі, відэапрагляды. Арганізатары фэстывалю мяркуюць, што гэтым разам павялічыцца кола ўдзельнікаў, бо ўсяго ў Беларусі жывуць больш за 100 нацыянальнасьцяў і народнасьцяў.

## У ВІЦЕБСКУ БЫЎ ЗАТРЫМАНЫ СЯБРА ЦЭНТРУ МАЛАДЗЁВЫХ ІНІЦЫЯТЫВАЎ "КОНТУР"

17-га лютага 2001 г. у Віцебскім дзяржаўным тэхналягічным унівэрсытэце быў затрыманы непаўнагадовы сябра Грамадзкага Аб'яднаньня "Цэнтар маладзёвых ініцыятываў "Контур" Ігар Землякоў. Ігар раздаваў студэнтам запрашэньні да ўдзелу ў "Школе лідарства", якая распачнецца з сакавіка 2001 г. на базе ГА ЦМІ "Контур". Паводле словаў Ігара Землякова, студэнты ахвотна бралі запрашэньні і на момант затрыманьня рэклямнай прадукцыі амаль не засталося. У 12.40 да распаўсюджвальніка падышлі трое міліцыянтаў, канфіскавалі матэрыялы і затрымалі. У пастарунку на хлопца склалі рапарт, зь якога вынікае, што выклікала міліцыю кіраўніцтва ўніверсытэту. У Інспэкцыю па справах непаўнагадовых быў выкліканы бацька Ігра. Зь ім у пастарунак прыехалі адказны сакратар ЦМІ "Контур" Юры Корбан і праваабаронца зь Віцебскага аддзяленьня Беларускага Хельсынскага Камітэту Васіль Ігнаценка. Пасьля размовы зь імі затрыманага адпусьцілі.

Гэта ўжо ня першае затрыманьне Ігара, у мінулым годзе яго затрымалі за распаўсюджваньне ўлётак з заклікам прыняць удзел у Маршы Свабоды. Міхась Землякоў заявіў, што пляную абскардзіць супрацьпраўныя дзеяньні міліцыі ў пракуратуры.

Трэба адзначыць, што Грамадзкае Аб'яднаньне ЦМІ "Контур" зарэгістраванае ва Ўпраўленьні юстыцыі Віцебскага аблвыканкаму і паводле свайго статуту мае права распаўсюджваць падобную інфармацыю.

Паводле словаў адказнага сакратара ГА ЦМІ "Контур", затрыманьне Ігара яшчэ раз падкрэсьлівае, наколькі рэжым палохаецца любых праяваў актывізацыі грамадскага сэктару. Аднак, паводле словаў Юрыя Корбана, ніякія рэпрэсіі ня спыняць росту прыхільнікаў дэмакратыі і незалежнасьці сярод моладзі Беларусі.

## ЗАТРЫМАЛІ СЕВЯРЫНЦА

Удзень 16 лютага ля памяшканьня Ўправы Беларускага народнага фронту быў затрыманы лідар "Маладога фронту" Павал Севярынец. Яго завезьлі ў Савецкі РАУС, дзе склалі пратакол з абвінавачаньнем у арганізацыі несанкцыянаванага шэсьця 14 лютага. Суд, які адбыўся пазьней, пасьля допыту сьведак быў перанесены на 19 лютага. Да гэтага часу Севярынца адпусьцілі на волю. Падчас знаходжаньня старшыні МФ у РАУСе туды прыязджалі прадстаўнікі амбасады ЗША, аднак ніякіх зьвестак ім атрымаць не ўдалося. Прадстаўнікі амбасады паведамілі, што ў Вашынгтоне ў сувязі з затрыманьнем Паўла Севярынца будуць прынятыя адпаведныя заявы.

Сам Павал Севярынец мяркуе, што яму, акрамя адміністрацыйнай справы па 14 лютага, могуць інкрымінаваць арганізацыю маладзёвай акцыі "Пераменаў!", якая прайшла 12 лістапада 2000 году ў Менску.

Перад затрыманьнем Севярынцу прыйшлося два дні хавацца ў памяшканьні Ўправы БНФ. Увесь гэты час будынак знаходзіўся ў аблозе. Некалькі міліцэйскіх машын заблякавалі ўваход, яшчэ пяць стаялі ў дварах. Міліцыянты па чарзе грэліся ў тралейбусе, які падагналі да памяшканьня. Спачуваючы ім, дзяўчаты з Маладога Фронту ўвечары 15 лютага напаілі "ахоўнікаў правапарадку" гарбатай, за што тыя сарамліва падзякавалі па-беларуску.

## 150 МІНІМАЛАК СЕВЯРЫНЦУ

19 лютага ў менскім Цэнтральным судзе адбыўся разгляд справы Паўла Севярынца, лідара Маладога Фронту. Пасьля трохгадзіннага разгляду справы судзьдзя вынесла прысуд згодна артыкулу 167.2 - арганізацыя масавага шэсьця - і аштрафавала Паўла Севярынца на 150 мінімальных заробкаў.

## БЕРАСЬЦЕЙСКАЯ МОЛАДЗЬ ГАТОВАЯ ВЕСЬЦІ МАБІЛІЗАЦЫЙНУЮ КАМПАНІЮ

17 лютага ў Пінску адбылася другая сустрэча прадстаўнікоў маладзёвых арганізацыяў Берасьцейшчыны. Арганізавалі сустрэчу Цэнтар Рэгіянальнага Супрацоўніцтва (Белаазёрск) і пінская філія Згуртаваньня беларускіх студэнтаў. У сустрэчы ўзялі ўдзел сябры маладзёвай грамады "Звон" (Столін), маладзёвага Цэнтру правоў чалавека (Пінск), студэнцкага навуковага таварыства "Палада" (Баранавічы), а таксама філіяў Задзіночаньня Беларускіх студэнтаў, Грамадзянскага Форуму і Маладога Фронту зь Пінску, Баранавічаў, Пружанаў і Берасьця. На мінулай сустрэчы, якая прайшла 20 студзеня ў Драгічынскім раёне, маладзёвыя арганізацыі Берасьцейшчыны падпісалі пагадненьне аб супрацоўніцтве і вырашылі аб'яднаць свае дзеяньні дзеля захаваньня незалежнасьці Беларусі. Тады ж было вырашана разам праводзіць мабілізацыйную кампанію з мэтай заахвоціць моладзь да ўдзелу ў выбарах. 17 лютага быў зроблены наступны крок - арганізацыі заплянавалі, якія менавіта акцыі будуць праведзеныя ў рамках мабілізацыйнай кампаніі. Падчас сустрэчы сябры арганізацыяў выказалі шмат ідэяў і прапановаў па правядзеньні кампаніі ў сваёй мясцовасьці і праявілі вялікую зацікаўленасьць у тым, каб гэтыя ідэі былі рэалізаваныя. Паміж арганізацыямі наладжаны рэгулярны інфармацыйны абмен.

Дарэчы, Пагадненьне аб супрацоўніцтве адкрытае. Да яго могуць далучацца ўсе, хто жадае прыкласьці свае намаганьні да перадвыбарчай, перш за ўсё мабілізацыйнай, кампаніі .

У падрыхтоўцы да выбараў моладзь Берасьцейшчыны дэманструе найбольшую актыўнасьць і гатоўнасьць да канрэтных дзеяньняў. У іншых абласьцях праца па стварэньні маладзёвых мабілізацыйных кампаніяў яшчэ толькі пачынаецца.

## У БЕЛАРУСІ РАСЬЦЕ КОЛЬКАСЬЦЬ ВЫПАДКАЎ ПАРУШЭНЬНЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

20 лютага ў Менску адбылася прэзэнтацыя "Агляду парушэньняў правоў чалавека-2000", выдадзенага Праваабарончым цэнтрам "Вясна". Кніга выйшла ў трох варыянтах: беларускім, ангельскім і расейскім.

У прээзнтацыі ўзялі ўдзел сябры праваабарончых арганізацыяў, а таксама пацярпелыя ад рэжыму і іх сваякі: Зоя і Ўладзімер Кудзінавы, Юлія Чыгір, жонка Андрэя Клімава Тацяна; прысутнічаў таксама амбасадар ЗША сп. Майкал Козак. Кіраўнік праваабарончага цэнтру "Вясна" Алесь Бяляцкі ў сваім выступе адзначыў, што аб'ём дакладу ў параўнаньні з 1998 і 1999 гг. павялічыўся на трэць, адпаведна колькасьці парушэньняў правоў чалавека. У кнізе прыводзяцца факты крымінальнага перасьледу палітычных, грамадзкіх дзеячаў і аб'яднаньняў, зьнікненьня людзей, парушэньня свабоды слова, дыскрымінацыі правоў грамадзян па рэлігійных прыкметах і нацыянальнай прыналежнасьці, моўнай дыскрымінацыі і інш.

## ЧАМУ НЕЛЬГА НАЗЫВАЦЦА ЦЭНТРАМ

Ініцыятыўная група па стварэньні грамадзкага аб'яднаньня "Цэнтар рэгіянальнага супрацоўніцтва" (Белаазёрск) падала заяву ў Берасьцейскі абласны суд на ўпраўленьне юстыцыі Берасьцейскага аблвыканкаму. У ёй патрабуецца адмяніць незаконнае, на думку істца, рашэньне Ўпраўленьня юстыцыі аб адтэрміноўцы рэгістрацыі грамадскага аб'яднаньня "Цэнтар рэгіянальнага супрацоўніцтва". Неабходныя дакуманты былі пададзеныя ініцыятыўнай групай у лістападзе 2000 году. 6 сьнежня і паўторна 15 студзеня было вынесена рашэньне аб адтэрміноўцы рэгістрацыі. Прадстаўнікі арганізацыі мяркуюць, што гэтае рашэньне неабгрунтаванае і незаконнае. Падставай для стала выкарыстаньне ў назве арганізацыі слова "цэнтар", што супярэчыць "Правілам афармлення і разгляду дакумантаў, якія прадстаўляюцца для дзяржаўнай рэгістрацыі палітычных партый, прафесійных саюзаў, іншых грамадскіх аб'яднанняў, а таксама пастаноўкі на ўлік і дзяржаўнай рэгістрацыі іх арганізацыйных структур", якія былі зацьверджаныя Пастановай Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь № 22 ад 01.12.2000г. Аднак сама гэтая пастанова не адпавядае Закону Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях", які прадугледжвае наступныя абмежаваньні для назвы грамадзкага аб'яднаньня: "не дапускаецца выкарыстанне ў назве грамадскага аб'яднання слоў "Рэспубліка Беларусь", "Беларусь", "нацыянальны", "народны" у любым склоне". Гэты пералік закрыты і не прадугледжвае магчымасці яго пашырэння іншымі нарматыўнымі актамі. Пры гэтым законы маюць большую юрыдычную сілу ў адносінах да нарматыўна-прававых актаў міністэрстваў, што вызначаецца арт. 10 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб нарматыўна-прававых актах". Такім чынам, уключэньне ў пастанову Міністэрства юстыцыі № 22 ад 01.12.2000 г. абмежаваньня ў выкарыстаньні слова "цэнтар" зьяўляецца неправамоцным.

Прыведзеныя акалічнасьці даюць сябрам белаазёрскай арганізацыі надзею на пасьпяховае вырашэньне справы ў судзе, які мае адбыцца на працягу месяца.

### У ТУРАВЕ БУДУЦЬ ВЫХОДЗІЦЬ "ВОЛЬНЫЯ НАВІНЫ"

У м. Тураў Жыткавіцкага раёну Гомельскай вобласьці выйшаў першы нумар газэты "Вольныя навіны" - выдавецкага праекту Міхаіла Козела. У выданьні будуць друкавацца мясцовыя навіны, аўтарскія артыкулы, лісты чытачоў. Аб'ём газэты будзе зьмяняцца ў залежнасьці ад колькасьці матэрыялу. "Вольныя навіны" распаўсюджваюцца бясплатна і маюць наклад 300 асобнікаў. Пэрыядычнасьць выхаду газэты - раз у месяц.

# ГАЛІНА ЛУКАШЭНКА ЎЗНАГАРОДЖАНАЯ ПАМЯТНЫМ ЗНАКАМ "2000 ГАДОЎ ХРЫСЬЦІЯНСТВУ"

Старшыня Нацыянальнага аргкамітэту па сьвяткаваньні 2000-годзьдзя хрысьціянства У.Ярмошын узнагародзіў памятным знакам "2000 гадоў Хрысьціянству" шэраг грамадзянаў Шклоўшчыны. Віцэ-сьпікер Палаты прадстаўнікоў Канаплёў В.Н. атрымаў сваю ўзнагароду за тое, што зрабіў поўны рамонт сабору. Памятны знак атрымала таксама Галіна Радзівонаўна Лукашэнка - за арганізацыю і вядзеньне нядзельнай школы ў Саборы.

# ГАНЦАВІЦКУЮ ЦАРКВУ АБВІНАВАЧВАЮЦЬ У ПРЫНЯСЕНЬНІ ЛЮДЗКІХ АХВЯРАЎ

У Ганцавічах пратэстанцкая "Царква Ісуса Хрыста" падвяргаецца ціску ўладаў. Прычынай канфлікту стала зьнікненьне хлопца, які некаторы час наведваў царкву. Па факце зьнікненьня была ўзбуджаная крымінальная справа. Пазьней цела зьніклага было знойдзена, і сьледства ўстанавіла, што царква ня мае дачыненьня да гэтай справы. Аднак падчас сьледства царкву пачалі наведваць міліцыянты.

Паводле словаў пастара абшчыны Эрнэста Трыкозы, яны правялі ператрус у малельным доме без прад'яўленьня адпаведных дакумантаў. Са-мога пастара двойчы выклікалі ва ўпраўленьне крымінальнага вышуку. Акрамя таго, мясцовыя жыхары, напалоханыя рознымі чуткамі, тройчы прыходзілі ў царкву, пагражаючы пастару расправай. У малельным доме выбілі шыбы. Калі царква зьвярнулася з заявай у міліцыю, ніякай рэакцыі не было. І нават пасьля ўстанаўленьня таго, што царква ня мае дачыненьня да зьнікненьня хлопца, не было прыненсена ніякіх прабачэньняў.

# АЗЁРЫ ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЬЦІ ПЕРАДАЮЦЦА Ў АРЭНДУ

У 2000 годзе эколягамі Віцебскай вобласьці было выяўлена 9300 парушэньняў прыродаахоўнага заканадаўства. Штрафы за парушэньні склалі 16,4 мільёнаў рублёў. У вобласьці здарылася восем аварыйных сытуацыяў. Усе яны зьвязаныя з узьдзеяньнем нафтапрадуктаў і неачышчаных сьцёкаў на глебу і ваду. Прычынай большасьці здарэньняў стаў недагляд з боку адказных асобаў.

На працягу году актыўна вялася праца па перадачы ў арэнду азёраў. На сёньняшні момант 374 возеры маюць сваіх часовых гаспадароў, аднак рыбапрадуктыўнасьць застаецца нізкай. Некаторыя арандатары гаспадараць толькі зь меркаваньняў нажывы, ня думаючы пра будучыню.

За 2000 год у вобласьці зьявілася 11 новых заказьнікаў мясцовага значэньня.

# ЗАВУЧЫ КОБРЫНУ ПРОСЯЦЬ ДАПАМОГІ Ў "ВЯСНЫ"

14 лютага ў Кобрынскай СШ № 1 адбылася прэзэнтацыя школьнай газэты "Маладзік". Наклад выданьня склаў 100 асобнікаў. У ім распавядаецца пра школьнае жыцьцё, культурніцкія падзеі Кобрыну. Тэхнічную дапамогу аказала мясцовая філія "Вясны". Прэзэнтацыя адбывалася ў рамках нарады адміністрацыяў школаў, на якой прысутнічалі завучы і дырэктары навучальных установаў. Перад школьным начальствам выступіла рэдкалегія - старшаклясьнікі школы. Сустрэчу здымала мясцовая тэлевізія. Прадстаўнікі іншых школаў зацікавіліся вопытам выданьня газэты. Улічваючы вялікую цікавасьць школаў да выпуску ўласных газэтаў, мясцовыя грамадзкія арганізацыі вырашылі стварыць групу падтрымкі школьнай выдавецкай дзейнасьці.

---

**Шаноўныя патрыёты Беларусі!**

**Набліжаецца час, калі ад кожнага запатрабуецца адданая праца дзеля Бацькаўшчыны. Свае заявы на ўступленне ў Партыю БНФ накіроўвайце на адрас газеты, перадавайце асабіста, ці праз сяброў БНФ або пасылайце на адрас: 220005, г. Менск, вул. Варвашэні, 8, Управа Сойму Партыі БНФ.**

---

Ва Ўправу Сойму Партыі БНФ грамадзяніна Беларусі

______________________________

______________________________

______________________________

які нарадзіўся "____" ____________ 19___ г., жыве па адрасе______________________________

______________________________

род заняткаў______________________________

тэлефон______________________________

ЗАЯВА

Прашу прыняць мяне ў Партыю БНФ. Праграмныя палажэнні БНФ "Адраджэньне" падзяляю. Абавязуюся выконваць Статут Партыі БНФ.

______________ (дата)

______________ (подпіс)

Заснавальнікі: Лідская гарадская і Лідская раённая рады БНФ "Адраджэньне". Рэдактар Ліда Кісялевіч

Адрас для допісаў: 231300 г. Ліда - 2 п/с 7

Аўтары цалкам адказныя за праўдзівасць і дакладнасць дасланай інфармацыі. Наклад 250 асобнікаў. Фармат А-4

Газета распаўсюджваецца на правах нутраной дакументацыі Надрукавана на абсталяванні Свабоднага прафсаюза Беларусі